ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА—PRICE $ 1.25

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P.O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432

Год XXXII № 313 — Нью Ёрк — кастрычнік — 1983 — October — New York — Vol. XXXII № 313

## ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ

**(Да 100-годзьдзя нараджэньня—20. X.1883 г., і 45-ых угодкаў гібелі — 1938 г.)**

**Вацлаў Ластоўскі ў 1927 годзе (фатаграфія з хрэстаматыі І. Дварчаніна)**

Вацлаў Ластоўскі — адзін з найбольш дынамічных дзеячоў беларускага нацыянальнага адраджэньня, беларускае культуры. Вынікамі свае працы, сваймі ідэямі, новымі кірункамі й знахадкамі мінуўшчыны ён натхніў або прынамся закрануў усіх, хто працаваў ці працуе на беларускай нацыянальна-грамадзкай ніве. За сваю адданасьць справе адраджэньня Беларусі ён і трапіў у бальшавікоў у катэгорыю „ворагаў народу" ды ўсьцяж кляеыфікуецца — прыкладам, у Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі — як „беларускі буржуазны нацыяналіст".

У зборніку пагромніцкіх матар'ялаў пад заг. „Супроць контррэвалюцыйнага беларускага нацыянал-дэмакратызму" (Белдзяржвыдавецтва, 1931, б. 17), у артыкуле пад заг. „Твар беларускай контррэвалюцыі", Ластоўскі (а за ім — „Краскоўскі, Лёсік, Некрашэвіч і Ко") пастаўлены „на чале групы вядомых контррэвалюцыянераў, нацыянал-дэмакратаў". Гэткая характарыстыка ў часох сталінскіх чыстак, арыштаў і высылак была раўназначная прысуду на зьнішчэньне. Гэтак яно й сталася. Арыштаваны ў 1930 г., Вацлаў Ластоўскі быў высланы зь Беларусі ў Саратаў. Пра долю ягоную там блізу нічога ня ведама. Як дата ягонае сьмерці, у БелСЭ стаіць нямы 1938-ы год — год ,які разам з 1937-ым, на Захадзе слушна назвалі годам „Вялікага Тэрору".

Пра Вацлава Ластоўскага ў нас найбольш ведама ад сп. Ант. Адамовіча, які знаў яго асабіста й блізка, ды зь вялікага нарысу Рамана Склюта „Званар Адраджэньня (Вацлаў Ластоўскі)", што друкаваўся працягамі (але ня скончаны) у газэце „Бацькаўшчына" ў 1954 годзе.

Ластоўскі паходзіць зь сям'і дробназямельнага арандатара (як і Янка Купала) з засьценку Калесьнікі каля сяла Стары Пагост Дзісьненскага павету. Як і Купала, Ластоўскі меў толькі пачаткавую фармальную асьвету, але адзначаўся багатымі ведамі, дзякуючы самаадукацыі й напорнай працавітасьці ды шчодраму таленту.

Пра дасягненьні Вацлава Ластоўскага, які ў 1927 г. перабраўся з Коўні ў Менск ды стаўся там адным з найбольш дзейных супрацоўнікаў Інбелькульту (Інстытуту Беларускае Культуры), а пасьля — акадэмікам АН БССР, добра сьветчыць сёлетні лёнданскі сымпозіюм, на якім чыталіся даклады пра Ластоўскага, як пра пісьменьніка й літаратурнага крытыка, бібліёграфа, гісторыка, палітыка й этнографа. А гэта яшчэ далёка не пакрывае ўсяго, чым займаўся гэты волат беларускае нівы, бо быў ён і публіцыстым, і рэдактарам, і выдаўцом, і лексыкографам.

### Уплыў на Янку Купалу

Сёлета на міжнародным кангрэсе славістых ,што адбыўся ў Кіеве 6-14 верасьня, брытанскі прафэсар Арнольд МакМілін у сваім дакладзе пра Купалаву паэму „Бандароўна" й Тараса Шаўчэнку адзначаў ролю Ластоўскага ў „ачышчэньні беларускае гісторыі ад хвальшу" ды тое, што напісаная Ластоўскім у 1909 г. „Кароткая гісторыя Беларусі" зрабіла вялізарны ўплыў на завайстрэньне ў Купалы гістарычнае тэматыкі. У сьвятле гэтае акалічнасьці стаецца зразумелым, чаму Купала прысьвяціў Ластоўскаму свой верш 1909 году „Песьня Званара", а пасьля — і верш „Дудар". У Ластоўскага з Купалам на ўсё жыцьцё засталіся добрыя ,прыязныя дачыненьні, хоць цяпер савецкая купаліяна (асабліва ў асобе Алега Лойкі зь ягоным новым раманам-эсэ „Янка Купала") са скуры лезе, каб паказаць Купалу й Ластоўскага, як асабістых непрыяцеляў ды ідэйных ворагаў.

### „У першым радзе нашых пісьменьнікаў"

У гістарычна самым першым літаратурна-крытычным аглядзе беларускае літаратуры XX-га ст., у 1910 годзе, у сёмым нумары газэта „Наша Ніва", Сяргей Палуян (пад псэўданімам С. Ясяновіч) пісаў: „З новых сіл нашай літаратуры трэба адзначыць Максіма Багдановіча й Власта (псэўданім Вацлава Ластоўскага). У абодвых ёсьць нешта супольнага, хаця першы піша вершы, а другі прозу. Але абодвы яны паэты, бо абразкі Власта — гэта паэзіі прозаю. Абодвых іх родніць супольны тон іх твораў, яны паэты сумнага і ціхага настрою, як шэрая часіна зьмярканьня. Або стануць у першым радзе нашых пісьменьнікаў".

Гэтак-жа высака ацаніў літаратурны талент яго і М. Багдановіч, якога Раман Склют характэрызуе, як „найбольш праніклівага, кваліфікаванага і прытым строгага крытыка". У сваім аглядзе беларускае літаратуры „За тры гады" (1911-1913) Максім Багдановіч, другі раз ужо, высака паставіў бэлетрыстыку Власта-Ластоўскага:

„Власт надрукаваў усяго 3-4 рэчы, але кожную можна ўзяць за прыклад ,як трэба пісаць. Асабліва хораша напісаны апавяданьні 'Сож і Дняпро' — вельмі прыгожая казка-легенда (гэтага ў нас дасюль яшчэ ня было, дый наагул спатыкаецца ня часта) і, далей, 'Дзень рожавай кветкі', што нагадвае лепшыя з апавяданьняў, здабыўшых усясьветную славу дацкаму пісьменьніку Андрэрсэну".

Савецкія цэнзары, заціраючы сьляды Ластоўскага ў гісторыі беларускае літаратуры, у двутомавым „Зборы твораў" М. Багдановіча (Менск, 1968) усюды, дзе Багдановіч згадвае Ластоўскага, парабілі пропускі...

### Ад „прыніжэнства" да мастацтва нацыянальнае красы

Як адну з важных заслугаў Ластоўскага ў нашым адраджэньні, Раман Склют у згадваным ягоным нарысе пра „Званара Адраджэньня" называе „штуршок", які Ластоўскі даў „усяму нашаніўству ў кірунку зьмены таго нездаровага курсу, які быў узяты гэтаю літаратурнай плыняй яшчэ на самых пачатках, як пэўная спадчына ад папярэднікаў, ды моцна абмежваў літаратурнае разьвіцьцё — курсу сьлязьлівага 'прыніжэнства' ".

**(Заканчэньне на б. 5-й)**

## ВЕЧАР ПАМЯЦІ В. ЛАСТОЎСКАГА

Управы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ды Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью Ёрку 29 кастрычніка сёлета адзначылі 100-годзьдзе нараджэньня Вацлава Ластоўскага культурным вечарам, на якім праф. Ант. Адамовіч і сп. Антон Шукелайць паінфармавалі пра свой удзел у лёнданскім сэмінары, прысьвечаным Ластоўскаму, пра свае даклады на ім ды пра лёнданскую беларускую грамаду. Грамада гэтая, як сказаў сп. Шукелайць, хоць і малая лікам, мае вялікія здабыткі на ніве арганізацыйна-навуковае дзейнасьці, галоўна дзякуючы створанай там сьв. пам. Біскупам Сіповічам, а цяпер кіраванай ягоным наступнікам а. Аляксандрам Надсонам Беларускай Бібліятэцы й Музэю імя Ф. Скарыны.

## СЭМІНАР ПРА В. ЛАСТОЎСКАГА

20-га кастрычніка 1983 году мінула сто год ад дня нараджэньня вялікага сына беларускага народу — „званара" нацыянальнага адраджэньня, гісторыка, пісьменьніка, паэта, навукоўца, журналіста, этнографа, палітыка і бібліёграфа Вацлава Ластоўскага, які ў самыя адказныя часы беларускага нацыянальна-культурнага руху ды змаганьня за палітычныя правы й незалежнасьць Беларусі — у першай чверці дваццатага стагодзьдзя — быў адным з найбольш важных нацыянальных правадыроў. Дзякуючы сваёй тытанічнай працавітасьці, высокай культуры й розуму, Вацлаў Ластоўскі доўгія часы стаяў на перадавых пазыцыях як нацыянальнага адраджэньня, гэтак і дзяржаўнага будаўніцтва Беларускай Народнай Рэспублікі. За гэта Вацлаў Ластоўскі здабыў пачэснае месца ў гісторыі нашай бацькаўшчыны, а цяперашнія маскоўскія акупанты Беларусі, начапіўшы на гэтага выдатнага сына паняволенага яшчэ й

**(Заканчэньне на б. 5-й)**

## ХІРАТОНІЯ БІСКУПА УЛ. ТАРАСЭВІЧА

Папа Ян Павал II, прыхіляючыся да просьбаў беларускага каталіцкага сьвятарства і вернікаў, дэкрэтам 1-га ліпеня 1983 г. вызначыў Архімандрыта Ўладзімера Тарасэвіча, пастыра парахвіі Хрыста Збаўцы ў Чыкага, Апостальскім Візытатарам для Беларусаў-каталікоў і адначасова тытулярным Біскупам Марыямітанскім.

Па атрыманьні весткі аб гэтым назначэньні адбылася прэсавая канфэрэнцыя Біскупа-наміната і чыкагаўскага Арцыбіскупа Кардынала Джозэфа Бэрнардына, пра якую паведамляла радыёстанцыя НБС. Мясцовая каталіцкая й этнічная прэса таксама паведаміла аб гэтай namінацыі. Увечары 28-га жніўня а. Тарасэвіч выступіў на праграме беларускага радыё „Нёман" у Чыкага, расказаў слухачом аб сваёй намінацыі ды запрасіў іх узяць удзел у хіратоніі.

### ДЭКРЭТ ПАПЫ ЯНА ПАЎЛА II

Ян Павал — Біскуп, Слуга Слуг Божых, (шле) ўлюбёнаму сыну Ўладзімеру Л. Тарасэвічу, манаху ордэна сьв. Бэнэдыкта, дагэтуль настаяцелю царквы Хрыста Спаса ў горадзе Чыкага, названаму тытулярнаму Біскупу Марыямітанскаму й Апостальскаму Візытатару для Беларусаў-каталікоў Візантыйскага абраду, прывітаньне й Апостальскае благаслаўленьне.

Атрымаўшы наказ кіраваць усёй Царквой Хрыстовай, Мы праяўляем клопат аб усіх верніках, асабліва аднак аб тых, што, пакінуўшы бацькаўшчыну, жывуць расьцярушаныя па розных кутках сьвету, дзе толькі могуць знайсьці адпаведныя сродкі для пражыцьця.

Паколькі Беларусы-каталікі Візантыйскага абраду, якія пакінулі бацькаўшчыну ў выніку Другое сусьветнае вайны і якія па сьмерці Дастойнага брата Часлава Сіповіча засталіся пазбаўленыя свайго Апостальскага Візытатара, знаходзяцца ў такім палажэньні, Мы пастанавілі пайсьці ім насустрач у іхнай патрэбе. Дзеля гэтага, параіўшыся з Дастойным братам Нашым Кардыналам Сьвятой Рымскай Царквы й Прэфэктам Сьвятой Кангрэгацыі

**(Заканчэньне на б. 2-й)**

**Біскуп Латоцкі трымае Эвангельле над Біскупам Тарасэвічам**

**Апостальскі Візытатар Біскуп Уладзімер Тарасэвіч**

**Пасьля хіратоніі стаяць (зьлева направа): лятувіскі Біскуп на выгнаньні Вінцэнт Брызьгіс, Біскуп Андрэй Грутка з гор. Гэры, Апостальскі Дэлегат Арцыбіскуп Піё Лягі, новы Біскуп Уладзімер Тарасэвіч, Біскуп Інацэнт Латоцкі й Кардынал Бэрнардын.** Фатаграфіі газэты The Chicago Catholic, зробленыя Джэймсам Кількойнэ.

Пачаліся інтэнсыўныя рыхтаваньні. Біскуп-намінат за дзень свае хіратоніі выбраў 8-га верасьня, дзень сьвята Нараджэньня Багародзіцы, а царкву, у якой яна мае адбыцца — украінскую катэдру Сьв. Мікалая ў Чыкага. На першага і галоўнага кансэкратара Біскуп-намінат запрасіў Біскупа ўкраінскай чыкагаўскай дыяцэзіі Інацэнта Латоцкага, на другога — Біскупа дыяцэзіі Саліна ў Канзасе Даніеля Кучэру, і трэйцяга — Біскупа Ўсходняй Епархіі ў Парме, штат Агаё, Эміля Мігаліка.

Цырымонія кансэкрацыі новага біскупа пачалася прыгожай і доўгай працэсіяй, у якой ішлі ўрачыста адзетыя Рыцары Калюмба, каля сотні сьвятароў, бэнэдыктынскія абаты з многіх манастыроў, біскупы, якіх было усіх разам дванаццаць. Сярод іх: Апостальскі Дэлегат у ЗША Арцыбіскуп Піё Лягі й Чыкагаўскі Арцыбіскуп Кардынал Бэрнардын.

Ля алтара Абаты Валянтын Склюзачэк і Тамаш Гаўлік з манастыра сьв. Пракопа ў Лаел павялі прадставілі Біскупа-наміната Ўладзімера Біскупам-кансэкратарам.

Тады быў прачытаны дэкрэт-ліст Папы Яна Паўла II паангельску і пабеларуску: паангельску а. Длоўгым — бэнэдыктынцам, а пабеларуску — Мітрафорным Пратаярэем а. Аляксандрам Надсонам, рэктарам Беларускай Каталіцкай Місіі ў Лёндане й Парыжы, які браў чынны ўдзел у архірэйскай багаслужбе.

## ГАЛАДОЎКА РАЗАМ З М. КУКАБАКАМ

У Лёндане Гэмстэдзкая Унітарыянская група актывістаў з Амнэсты Інтэрнашэнал, з удзелам лёнданскіх Беларусаў, правяла 30 кастрычніка сёлета аднадзённую галадоўку й дэманстрацыю ў абарону Міхала Кукабакі, беларускага вязьня сумленьня ў Савецкім Саюзе.

Дзень 30-га кастрычніка штагоду адзначаецца іншадумцамі ў Савецкім Саюзе ды іхнымі прыхільнікамі ў вольным сьвеце, як дзень Дзень Палітычнага Вязьня.

Міхал Кукабака, які быў засуджаны ў жніўні летась на тры гады суровага лягернага рэжыму, штагоду ў гэты Дзень галадуе на знак пратэсту супраць гвалтаваньня правоў чалавека ў Савецкім Саюзе.

Міхала Кукабаку адаптавалі для абароны, апрача лёнданскае групы з Амнэсты Інтэрнашэнал, гэткія-ж групы ў Даніі й Аўстрыі, якія таксама правялі 30 кастрычніка дэманстрацыі ў знак салідарнасьці зь Міхалам Кукабакам.

# ЖЫЦЬЦЁ, АДДАДЗЕНАЕ МУЗЫЦЫ

**(Эльзе Зубковіч — замест нэкралёгу)**

**(Заканчэньне з № 312)**

У Амэрыцы шырака разгарнулася кампазытарская, пэдагагічная й выканальніцкая дзейнасьць Эльзы Рабэртаўны. Апынуўшыся нарэшце ў спакойных, людзкіх абставінах жыцьця, яна цалкам аддалася ўлюблёнай працы. Узьнікаюць цыклі фартэпіянных прэлюдыяў, пэдагагічныя зборнікі, зборнікі рамансаў, апрацоўкі народных песьняў. Яна часта выступае на канцэртах ці беларускіх урачыстасьцях, выконваючы ўласныя творы. Найлепшая выканальніца вакальных кампазыцыяў Эльзы Зубковіч — ейная дачка Ліза Маркоўская, выдатная камэрная сьпявачка, якая прайшла добрую школу сьпеву й шмат зрабіла для папулярызацыі творчасьці свае маці. З удачаю выступаюць і вучні Эльзы Рабэртаўны, выконваючы ейныя рэчы ці клясычны рэпэртуар.

Пакуль былі сілы, яна ніколі не адмаўлялася паспрыяць, мастацка дапамагчы арганізатарам беларускіх імпрэзаў. Ціраз эміграцкая грамадзкасьць у Амэрыцы адзначала розныя круглыя даты музычнае, пэдагагічнае й творчае дзейнасьці Эльзы Зубковіч. У ліпені 1982 г. ў доме-пэньсіёне Талстоўскага Фонду быў наладжаны вялікі канцэрт у гонар піяністкі, пэдагога й кампазытара Эльзы Зубковіч. Выдатныя піяністы й сьпевакі выконвалі ейныя творы. Канцэрт прайшоў вельмі ўдала. Гэта была апошняя радасьць Эльзы Рабэртаўны Зубковіч.

Улюбёным інструмэнтам Эльзы Зубковіч было фартэпіяна, і шмат прэлюдыяў для фартэпіяна становяць музычны дзёньнік ейнага жыцьця. Яны ня маюць рызначанай праграмы, але ўважлівы слухач знойдзе ў іх багатую гаму настрояў і пачуцьцяў, што адлюстроўваюць духовы сьвет кампазытара. Прэлюдыі яна кампанавала на працягу ўсяго жыцьця.

Першы сшытак прэлюдыяў быў выдрукаваны яшчэ ў Бэрліне, другі, шмат пазьней — ужо ў Амэрыцы. Мноства гэтых фартэпіянных мініятураў засталося ў рукапісах. У рамках артыкулу можна толькі павярхоўна крануцца паасобных асаблівасьцяў стылю творчасьці Эльзы Зубковіч, бо гэта тэма для асобнага музыкаведнага дасьледваньня.

Шмат у чым праявіліся ў ейнай творчасьці ўплывы Брамса — кампазытара, якога яна асабліва цаніла й дасканала ведала. Адсюль — стройнасьць формы, напеўнасьць мэлёдыі, лёгіка гарманічнага пляну, стрыманасьць пачуцьцяў, адсутнасьць экзальтацыі, раўнавага творчае фантазіі й эмоцыяў. Добрае веданьне кампазытарам тэхнічных магчымасьцяў фартэпіяна робяць гэтыя прэлюдыі вельмі піяністычнымі й выгоднымі для выкананьня.

Вялікае ўражаньне рабіла выкананьне фартэпіянных твораў самым аўтарам. Яна была выдатная піяністка лірыка-рамантычнага складу, з разьвітой пальцавай тэхнікай, выразным ударам, якаснай дынамікай адценьняў і поўнай адсутнасьцяй пагоні за вонкавымі эфэктамі. Надзвычайная музычная памяць дазваляла ёй выконваць бяз нотаў цэлыя праграмы ўласнай ці клясычнай музыкі.

Высака цанілася яна й сьпевакамі-салістамі, як чульлівы акампаніятар ,што ня толькі рытмічна суправаджала сьпевака, але ідэальна зьлівалася зь ім, тонка адчувала ўсе адценьні вакальнай лініі. Ведамы беларускі сьпявак-бас Пётра Конюх ахвотна сьпяваў зь ёю, нават складанейшыя рэчы вакальнага рэпэртуару ,як „Трапак" Мусоргскага.

Каля сотні вакальных твораў пакінула Эльза Зубковіч на словы беларускіх і расейскіх паэтаў. Толькі невялікая частка гэтых рамансаў і песьняў згрупавана ў друкаваныя зборнікі: „Край мой васільковы" — на беларускія тэксты і „Осенние падают листья" — на расейскія. Назоў „раманс", уласна кажучы, ня зусім перадае характар вакальных кампазыцыяў Зубковіч. Яснасьць формы, стрыманасьць музычна-тэхнічных сродкаў, натуральнасьць выражэньня творчае задумы — усё гэта набліжае іх да нямецкае мастацкае песьні, якая, пачынаючы ад Шубэрта, дасягнула вялікае дасканаласьці ў творчасьці Шумана, Брамса, Вольфа і Рыхарда Штраўса.

Значнае месца ў вакальнай творчасьці Зубковіч займае беларуская тэматыка. Яна напісала вялікую колькасьць песьняў на словы беларускіх паэтаў Коласа, Купалы, Гаруна, Кавыля ды асабліва блізкай ёй духам Натальлі Арсеньневае. Цудоўна гучаць і беларускія дуэты кампазытара — напрыклад, „Край мой васільковы" на словы Кавыля.

У сваім творчым мэтадзе Зубковіч не адштурхоўвалася ад паасобных папевак ці інтанацыяў беларускае песьні. З дапамогай свае музычнае мовы яна імкнулася даць абагульнены вобраз, што адпавядаў паэтычнаму настрою тэксту. Ніколі не пераабцяжваючы гэты агульны вобраз і ня выступаючы наперад, ейная музыка дапамагае зразумець задуму паэта і адценьня, недасказанага словамі. Цеснае узаемапранікненьне музычных і паэтычных вобразаў ,шчырая беспасярэднасьць пачуцьцяў, спалучаныя з добрым веданьнем магчымасьцяў голасу, робяць вакальныя творы Зубковіч вельмі ўдзячным рэпэртуарам для сьпевака.

Як пэдагог, Эльза Зубковіч здабыла сабе імя яшчэ ў часе працы ў музычных установах Менску. Яна заўсёды імкнулася разьвіць піяністычную індывідуальнасьць вучня, знаходзіла адпаведны пэдагагічны рэпэртуар, або сама кампанавала для вучняў фартэпіянныя мініятуры з шырокім выкарыстаньнем народнага мэлясу.

Вучні любілі й паважалі Эльзу Рабэртаўну. Прачулыя, зварушлівыя лісты атрымоўвала яна ад сваіх былых выхаванцаў.

„Дарагая, бясцэнная Эльза Рабэртаўна, Вы зрабілі для мяне гэтак шмат, што я заўсёды ўспамінаю Вас зь вялікай удзячнасьцяй. Асновы, закладзеныя Вамі, дапамаглі мне на ўсім маім прафэсійным шляху", піша Эльзе Зубковіч былая вучаніца, цяпер дацэнт Малдаўскае кансэрваторыі і заслужаны дзеяч мастацтваў.

„Самымі цікавымі й дарагімі засталіся для мяне лекцыі Эльзы Рабэртаўны", піша адзін з пэдагогаў музыкальнай школы Менску.

Ейны вучань зь Нямеччыны Ганс Штэгер пасьля курсу заняткаў з Эльзай Зубковіч бліскуча скончыў кансэрваторыю ў Мюнхэне ды стаўся выдатным піяністам, пэдагогам і музыкаведам. Зусім нядаўна ён апублікаваў у Нямеччыне сваё дасьледваньне аб творчасьці Скрабіна — кампазытара ,замілаваньне да якога прышчапіла яму Эльза Зубковіч у часе заняткаў зь ім. Ганс Штэгер часта прыяжджаў у Амэрыку ў сувязі са сваёй канцэртнай дзейнасьцяй і заўсёды наведваў сваю першую настаўніцу.

У Нью Ёрку Эльза Рабэртаўна да апошняга часу не пакідала свае пэдагагічнае дзейнасьці. У ейнай фартэпіяннай студыі ўзгадавалася плеяда маладых беларускіх піяністаў, якія на шмат якіх канцэртах паказалі свае мастацкія здольнасьці.

Я назваў свае ўспаміны пра Эльзу Рабэртаўну Зубковіч „Жыцьцё, аддадзенае музыцы". Сэнсам і зьместам ейнага жыцьця была музыка і толькі музыка. Эльза Зубковіч была неаддзельная ад музыкі і ўсе адценьні свайго характару ўвасобіла ў сваёй музыцы. Удумлівасьць без непатрэбнае глыбокадумнасьці, пяшчотная ,сузіральная лірыка без сэнтымэнтальнасьці, рамантычная ўзьнесенасьць бяз гучнага патасу, шчырасьць ,натуральнасьць й бязупыннае імкненьне да дасканаласьці, да ідэальнай, вечнай красы. Таму ейная музыка знойдзе водгук у сэрцы кожнага слухача, і таго, хто шукае ў ёй прастаты і яснасьці, і таго, хто здолее ацаніць за гэтай прастатой і яснасьцю дасканалую лёгіку фармальнай будовы ды шырокі спэктар эмоцыяў. І таму, што яна ўвасобіла ў сваёй творчасьці самую сябе, творчасьць гэтая ня толькі прыгожы вянок на ейную магілу, але й духовы працяг ейнага жыцьця.

**Алесь Карповіч**

## НАТАЛЬЛЮ АРСЕНЬНЕВУ

паэтку, аўтара тэкстаў папулярных песьняў, у тым ліку малітвы „Магутны Божа", перакладчыцу, шматгадовую актыўную грамадзкую працаўніцу, былую сяброўку ўпраў Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ды Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, былога рэдактара газэты „Беларус", шчыра вітаем з 80-мі ўгодкамі жыцьця, што спаўняюцца 20 лістапада сёлета, ды зычым хуткага выздараўленьня па нядаўнай апэрацыі, добрага здароўя й даўгога жыцьця.

**Управы БІНіМ і БАЗА**
**Рэдакцыя „Беларуса"**

# БЕЛАРУСЫ Ў ПНР: РОСТ ЗАЦІКАЎЛЕНЬНЯ

„Зацікаўленьне беларускай культураю ў Польшчы расьце. Пераломным у гэтым быў 1981 год". Гэтак піша ў Амэрыку адзін з нашых суродзічаў зь Беласточчыны. Довадам слушнасьці гэткага цьверджаньня могуць быць артыкулы на беларускія тэмы з польскага друку, выразкі якіх дайшлі да нас. Мы, зразумела, далёка ня маем усяго, але й тое, што ёсьць, даволі цікавае.

— У варшаўскай газэце "Polityka" быў зьмешчаны ліст пяцёх аўтараў-Беларусаў (Міхала Шаховіча, Сакрата Яновіча, Антона Лемеша й Юркі Ткачука зь Беластоку ды Ежага Тамашэўскага, не-Беларуса) супраць палянізацыі беларускіх геаграфічных назоваў на Беласточчыне (прыкладам, Рамашкі зьменены на Даброміль, Бакалашнікі — на Ягінты, Сядзельнікі — на Шудзялова, Пярэйма — на Софіполь і г.д.).

— У тэй-жа тыднёвай газэце „Палітыка" (26..III.83) праф. Ежы Тамашэўскі зьмясьціў, пад заг. „Справы беларускія, справы польскія . . .", рэцэнзію на зборнік навуковых працаў „Мост праз стагодзьдзі" (Беласток, 1982), у якім — 14 артыкулаў пра беларуска-польскія культурныя й моўныя сувязі.

Азнаямляючы чытача „Палітыкі" із зборнікам (выдадзеным, нажаль, тыражом усяго 350 экз.) рэцэнзэнт піша:

„Ці адзін з польскіх пісьменьнікаў згадвае з пачуцьцём Беларусь, аднак, не зважаючы на шматвяковую супольную мінуўшчыну, мы ўсё яшчэ замала пра яе ведаем".

Аўтар выказвае думку, што „было-б вельмі карысным выдаць у польскай мове зборнік найактуальнейшых, а таксама й найболыш супярэчлівых артыкулаў з газэты 'Ніва'. Я пэўны, — кажа Тамашэўскі, — што гэта было-б неблагім выдавецкім мерапрыёмствам, паколькі я часта спатыкаюся зь вялікім зацікаўленьнем праблемі нацыянальных меншынаў у сучаснай Польшчы і з запытаньнямі, дзе можна на гэтую тэму штонебудзь прачытаць. Зрэшты, творы беларускіх пісьменьнікаў, што выдаюцца ў нас, звычайна, не ляжаць доўга ў кнігарнях, што сьветчыць пра існаваньне чытачоў".

Ежы Тамашэўскі (народж. у 1930 г.) мае дактарат, ад 1972 г. — тытул прафэсара, працуе выкладчыкам у ВНУ — Галоўнай Школе Сельскае Гаспадаркі. Ён — аўтар або суаўтар колькіх працаў, у тым ліку кнігі „Зь гісторыі Палесься 1921-1939 г.г.", на тэмы нацыянальных меншыняў Польшчы.

— Орган Польскае Аб'еднанае Работніцкае Партыі "Gazeta Współczesna", якая пашыраецца ў раёне Беластоку-Ломжы-Сувалкаў (тыраж: 180 тыс. экз.) зьмясьціла ў нумары ад 3-4-5 чырвеня сёлета інтэрвію Міхала Шаховіча (супрацоўніка газэты „Ніва") з праф. Тамашэўскім. Тамашэўскі 20-21 травеня сёлета чытаў у Беластоку даклад на тэму „Нацыянальныя меншыні ў Другой Рэчыпаспалітай". Гутарка з Шаховічам у „Сучаснай Газэце" была пра ўзаемасувязь мовы й нацыянальнае сьведамасьці ў Палякоў і Беларусаў.

— Папулярная каталіцкая газэта "Tygodnik Powszechny" (8.V.83), што выходзіць у Кракаве, зьмясьціла вялікі артыкул Люц'яна Суханэка пад заг. „Беларусь-Дабрарусь" — пра беларускую гісторыю, літаратуру, выдавецкую справу, беларуска-польскія сувязі ды іншае. Артыкул

**(Заканчэньне на б. 5-й)**

# ЗЬ БЕЛАРУСКІМ СЭРЦАМ, ДУМАЙ...

**(Заканчэньне з б. 3-й)**

каванымі выкладчыкамі: дырэктар др. А. Орса (прыродаведа), прат. Мікалай Лапіцкі (рэлігія), Антон Адамовіч (агульная гісторыя), др. Алесь Багдановіч (анатомія), К. Бітус (матэматыка), Аўген Каханоўскі (беларуская мова й літаратура), Мікола Кругловіч (маляваньне), Мікола Кунцэвіч (лацінская мова), Іван Муха (матэматыка), Натальля Орса (беларуская мова), кампазытар Мікола Равенскі (сьпевы), Мячыслаў Рагажэцкі (матэматыка), Іна Рытар (нямецкая й ангельская мовы), Аляксандар Смаль (геаграфія), праф. Янка Станкевіч (гісторыя Беларусі), дацэнт Парфір Трысмак (фізыка й хэмія).

Спачатку на 8 клясаў было 86 вучняў. Яны паходзілі з розных частак Беларусі й мелі неаднолькавую падрыхтоўку. Настаўнікам даводзілася зь некаторымі зь іх працаваць індывідуальна й пры патрэбе больш ім дапамагаць. Клясы зь невялікім лікам вучняў рабілі гэта магчлівым.

Варта адзначыць, што амэрыканскія акупацыйныя ўлады й УНРРА, якія забясьпечвалі матар'яльны бок існаваньня гімназіі (памешканьне, бурса, утрыманьне вучняў) ніколі ня ўмешваліся ў працу гімназіі, не патрабавалі на перагляд ці зацьверджаньне сеткі навучаньня ці праграмаў. Гімназія была тыпу рэальных гімназіяў з лацінскай моваю, якая пачынала вывучацца ад 4-ае клясы. Вялікая ўвага зьвярталася на родную мову: у кожнай клясе кожны дзень былі лекцыі беларускае мовы. Ня меншая ўвага аддавалася на вывучэньне беларускае гісторыі й літаратуры.

Бязумоўна, былі й цяжкасьці. Напрыклад, вельмі адчувалася адсутнасьць патрэбных падручнікаў для вучняў. Кожнаму выкладчыку даводзілася ўкладаць з свайго прадмету канспэкты, што забірала час. Але самае важнае — настаўнікі шчыра імкнуліся даць веды моладзі. Моладзь гэта разумела. Незважаючы на ўсялякія перашкоды, вучылася старанна. Сярод гімназістых пераважала жаданьне набыць асьвету, дастаць дыплём, патрэбны ім для працягу навукі на ўнівэрсытэце.

Улетку 1946 году наш лягер быў пераведзены з Рэгенсбургу ў Міхэльсдорф — былое вайсковае лётнішча зь дзясяткам драўляных баракаў каля вёскі таго-ж назову. Самы лепшы барак з шырокім калідорам і сьветлымі прасторнымі пакоямі атрымала гімназія. Заняткі, як і раней, адбываліся ад 8-ай гадзіны раньня да 2-ой папаўдні.

На лягер Міхэльсдорф немагчліва забыцца. Пасьля вялікага гораду, дзе сабралася некалькі ДП лягероў зь іхнымі заўсёднымі трывогамі й хваляваньнямі, пасьля нагрэтых сонцам гарадзкіх камяніцаў, пасьля гарадзкой мітусьні ціхі Міхэльсдорф адразу захапіў сэрца. Цешылі вока лясы, прастора палёў, зялёны луг, спакойны чысты Рэген.

На беразе Рэгена ад раньня да вечара можна было бачыць жыхароў лягеру цэлымі сем'ямі. Гімназістыя, асабліва хлапцы-бурсакі, пасьпявалі выкупацца ў Рэгене да лекцыяў. Знаходзілі яны час для рэчкі й пасьля заняткаў. Цяпер ува ўсіх клясах за лаўкамі сядзелі паздаравелыя, запаленыя сонцам, вучні.

У 1945/46 школьным годзе гімназія мела вельмі кароткія летнія вакацыі: заняткі скончыліся 20-га жніўня, а ўжо 1-га верасьня пачаўся другі школьны год.

26-га верасьня 1946 году адбыўся першы выпуск матурыстых — сьвята ня толькі для гімназіі, але й для ўсяго лягеру. Настаўнікі, гімназістыя, іхныя бацькі, жыхары лягеру, госьці (прадстаўнікі УНРРА) — усе сабраліся ў лягернай залі, калі на сцэне абітурыенты 1-га выпуску атрымлівалі атэстаты сьпеласьці. Пэўна, урачыстасьць была з прамовамі, добрымі пажаданьнямі й канцэртам, зладжаным сіламі гімназістых.

Хутка пасьля выпуску першых матурыстых я, каб палепшыць свае веды з ангельскае мовы, паехала вучыцца ў Баварскую Школу Перакладчыкаў у Рэгенсбург. Правучылася там цэлы акадэмічны год. Аднак сувязі зь Міхэльсдорфскім лягерам ня губляла. На ўсіх сьвяткаваньнях абавязкава прысутнічала. А 1946/47 школьны год быў надзвычай багатым на ўсялякага роду гімназіяльныя імпрэзы. Часапіс літаратурнага гуртка гімназіі „У Выраі", № 1, падае пра іх „Хроніку", дзе яны досыць падрабязна пералічаюцца: абыход 140-ых угодкаў ад дня нарадзінаў В. Дуніна-Марцінкевіча (рэфэрат чытаў У. Цьвірка ,вучань 8-ае клясы); адзначэньне 150-ых угодкаў ад дня народзінаў Я. Чачота (рэфэрат чытала Н. Куліковіч, вучаніца 8-ае клясы); урачысты абход 19-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі (у праграме мастацкага паказу драматычным гуртком гімназіі была інсцэнізаваная паэма Янкі Купалы „На Папасе"); 2-гі выпуск матурыстых — урачыстая раздача атэстатаў, канцэрт.

Былі цікавыя й агульналягерныя імпрэзы, у якіх звычайна гімназія адыгрывала галоўную ролю — адзначэньне 30-ых угодкаў сьмерці Максіма Багдановіча, 430-ых угодкаў беларускага друку і інш. Аднак найбольшае ўражаньне ў мяне асабіста пакінуў дзень 5-ых угодкаў трагічнае сьмерці Я. Купалы, 28-га чэрвеня 1947 году, калі Пэдагагічная Рада гімназіі на адмысловым паседжаньні прыняла пастанову прысвоіць гімназіі імя Янкі Купалы.

У той дзень адбылася й акадэмія. На сцэне вісеў вялікі партрэт Я. Купалы, намаляваны спэцыяльна для ўрачыстасьці мастаком Д. Чайкоўскім. З гэтага партрэту заказалі клішэ, зь якога скаўцкае выдавецтва „Крыніца" зрабіла дзьве сэрыі адбіткаў: адну — для праграмак акадэміі, другую — для паштовак. Выкладчык беларускай мовы й літаратуры А. Каханоўскі прачытаў рэфэрат пра жыцьцёвы й творчы шлях Я. Купалы. Пасьля рэфэрату быў канцэрт. Кампазытар Мікола Куліковіч для гэтага канцэрту напісаў музыку да вершу Я. Купалы „Я ад вас далёка". Песьню дуэтам выконвалі вядомыя салісткі Менскага Опэрнага Тэатру — Натальля Куліковіч (Чэмярысава) і Барбара Вержбаловіч. Акампаньяваў ім на піяніна сам кампазытар.

Песьня мела нязвычайны посьпех. Перажываньні паэты, разлучанага з родным краем, спляліся з пачуцьцямі слухачоў, адгукнуліся болем у іхных сэрцах.

. . . А хоць дасьць мне доля ў дамавіне месца, —
Ўстане цень зь зямлі мой, на крыж абапрэцца,
І ў той бок глядзеці будзе век нязводна,
Дзе ляжаць загоны Беларусі роднай.

Словы гэтых радкоў асабліва моцна кранулі кожнага. Бальшыня прысутных у залі плакала. Песьня „Я ад вас далёка" не забываецца нашымі людзьмі й цяпер. Яна вельмі часта выконваецца беларускімі хорамі на чужыне. А прошлым летам мне пашчасьціла чуць яе ў пачуцьцёвым выкананьні рэдка таленавітага сьпевака Данчыка, сына гімназісткі, сп-ні Юлі Андрусышынай. Мушу прызнацца, ізноў, як і ў той далёкі дзень, амаль сорак год таму, сьпеў рашчуліў мяне да сьлёзаў.

Досыць частыя рэарганізацыі ДП лягероў, вымушаныя пераезды іхных жыхароў з аднаго месца на другое да пэўнай меры ўскладнялі працу гімназіі: мяняўся склад выкладчыкаў, мяняўся склад гімназістых. 3-ці выпуск матурыстых адбыўся яшчэ ў Міхэльсдорфе, 4-ты — у Віндзішбэргэрдорфе, а 5-ты — у Розэнгайме.

З прычыны выезду ў ЗША, др. А. Орса зь сям'ёю ў Розэнгайм не паехаў. Ня была ў Розэнгайме й я. Замест А. Орсы дырэктарам гімназіі быў сп. Алесь Вініцкі. Зь ягонай працы „Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939-51 гг." можна даведацца, што: „Навучальны 1949/50 год закончаны 3-га чэрвеня 1950 году. У сувязі з эміграцыяй жыхароў лягеру ў іншыя краіны сьвету, Першая Беларуская Гімназія імя Янкі Купалы ў Баварыі перастала існаваць. Праіснавала яна 4 гады й 5 месяцаў".

Ёсьць так многа гімназістых, пра якіх заўсёды з замілаваньнем успамінаецца. Я вельмі ўдзячная лёсу, што ведала гэтую слаўную моладзь, што была настаўніцай гімназіі імя Янкі Купалы.




# Беларус

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ

BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD

**P. O. Box 178 Jamaica, N. Y. 11431 U. S. A.**




## КАЛЯНДАР ПАЛІТЫЧНА-КУЛЬТУРНЫХ УГОДКАЎ НА 1983 ГОД

НА ПРАЦЯГУ ГОДУ СПОЎНІЦЦА: **425 год** ад пачатку ў 1558 г. й **400 год** ад скончэньня ў 1583 г. Лівонскае вайны, якую маскоўскі цар Іван Грозны пачаў і вёў супраць Вялікага Княства Літоўскага (Беларусі) за выхад да Балтыцкага мора. У выніку вайны была зруйнаваная й спустошаная ўся паўночна-ўсходняя Беларусь.

**СТУДЗЕНЬ. 120 год** ад пачатку антымаскоўскага паўстаньня пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага ў 1863 г. **18-га: 70 год** ад выхаду ў Вільні ў 1913 г. першага нумару газэты „Беларус" (выходзіла да 1915 г.).

**ЛЮТЫ. 2-га: 145 год** ад нараджэньня ў 1838 г. Кастуся Каліноўскага, выдаўца падпольнае газэты „Мужыцкая Праўда" й кіраўніка паўстаньня 1863 году. **15-га: 420 год** ад акупацыі Полацку войскамі Івана Грознага ў ходзе Лівонскае вайны ў 1563 г. **18-га: 90 год** ад нараджэньня ў 1893 г. Максіма Гарэцкага, пісьменьніка й гісторыка літаратуры, ахвяры сталінскага тэрору (загінуў 20. III. 1939 г.). **21-га: 65 год** ад абвешчаньня Выканальным Камітэтам Рады Ўсебеларускага Зьезду І-ае Ўстаўнае Граматы да народаў Беларусі.

**САКАВІК. 1-га: 50 год** ад сьмерці ў 1933 г. на выгнаньні ў Сібіры паэты Ўладзімера Жылкі. **3-га: 50 год** ад пастановы ЦК кампартыі Беларусі ў 1933 г. „Аб фактах прасочваньня клясава-варожых, нацыянал-дэмакратычных уплываў у мастацкую літаратуру БССР", што паклала аснову для новае хвалі арыштаў дзеячоў беларускае культуры (г. зв. „нацдэмаў"). **9-га: 65 год** ад абвешчаньня 2-ое Ўстаўное Граматы да народаў Беларусі; **30 год** ад сьмерці ў 1953 годзе ў Лювэне (Бэльгія) кампазытара й хормайстра Міколы Равенскага. **11-га: 80 год** ад нараджэньня Тодара Кляшторнага, пісьменьніка й ахвяры сталінскага тэрору (загінуў 26. XI. 1938 г.). **25-га: 65 год** ад абвешчаньня ў 1918 г. у Менску незалежнае **Беларускае Народнае Рэспублікі.**

**КРАСАВІК. 5-га: 35 год** ад Сабору Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (аднаўленьне аўтакефаліі) у 1948 г. у Канстанцы (Заходняя Нямеччына). **18-га: 80 год** ад нараджэньня ў 1903 г. Платона Галавача, пісьменьніка, рэдактара літаратурных часапісаў „Маладняк" і „Полымя", ахвяры сталінскага тэрору (загінуў 29. X. 1937 г.). **17-25-га: 60 год** ад XII-га зьезду ў 1923 г. кампартыі Савецкага Саюзу, на якім была прынятая рэзалюцыя, што абвяшчала змаганьне супраць спробаў „замацаваць панаваньне вялікарускае нацыянальнасьці" ды казала пра небясьпеку „пережыткаў вялікарускага шавінізму".

**ТРАВЕНЬ. 8-га: 30 год** ад стварэньня ў 1953 г. Міністэрства культуры БССР. **9-га: 30 год** ад выхаду ў 1953 г. ў Менску першага нумару літаратурнага месячнага часапісу „Маладосьць". **25-га: 50 год.** ад адкрыцьця ў 1933 г. ў Менску Беларускага дзяржаўнага тэатру опэры й балету.

**ЧЫРВЕНЬ. 8-га: 125 год** ад цэнзурнае забароны ў 1858 г. выданьня паэмы Вінцука Дуніна-Марцінкевіча „Халімон на каранацыі". **8-га: 25 год** ад заснаваньня ў 1958 г. пры газэце „Ніва" ў Беластоку літаратурна-мастацкага аб'еднаньня „Белавежа" (у 1980 г.ператворанага ў літаратурную сэкцыю „Белавежа" пры Беларускім Грамадзка-Культурным Т-ве).

**ЛІПЕНЬ. 75 год** ад выхаду ў 1908 г. ў Пецербургу ў выдавецтве „Загляне сонца і ў наша ваконца" першага зборніка вершаў Янкі Купалы „Жалейка". **65 год** ад выхаду ў 1918 г. ў Менску адзінага зборніка вершаў Алеся Гаруна „Матчын Дар".

**ЖНІВЕНЬ. 7-га: 50 год** ад апублікаваньня ў 1933 г. ў газэце „Правда" матар'ялаў пра чыстку „буржуазна-нацыяналістычных элемэнтаў" („нацдэмаў, бундаўцаў ды інш.") у кампартыі Беларусі, пасьля чаго паліцыйны тэрор на Беларусі йшчэ больш узмоцніўся. **50 год** ад русыфікацыйнае рэформы беларускага правапісу ў 1933 г.

**ВЕРАСЕНЬ. 15-га: 75 год** ад засуджэньня ў 1908 г. Якуба Коласа на тры гады турмы за ўдзел у нелегальным зьезьдзе беларускіх настаўнікаў ў 1906 годзе. **21-га: 25 год** ад публікаваньня ў 1958 г. „Запіскі" Мікіты Хрушчова ў справе рэформы савецкага школьніцтва, вынікам чаго было ўзмацненьне русыфікацыйнае ролі школы ў Савецкім Саюзе. **29-га: 160 год** ад нараджэньня ў 1823 г. Ўладыслава Сыракомлі, беларускага паэты, які пісаў пебаларуску й папольску.

**КАСТРЫЧНІК. 10-га: 45 год** ад сьмерці ў 1938 г. Адама Бабарэкі, літаратурнага крытыка, ахвяры сталінскага тэрору. **20-га: 100 год** ад нараджэньня Вацлава Ластоўскага, пісьменьніка, гісторыка, акадэміка, ахвяры сталінскага тэрору. (загінуў **45 год** таму ў 1938 г.).

**ЛІСТАПАД. 4-га: 150 год** ад пачатку выхаду ў 1823 г. ў Вільні афіцыйных органаў Паўночна-Заходняга Краю (Беларусі), газэтаў "Kurjer Wilenski" і „Виленский Вестник". **20-га: 63 гады** ад пачатку ў 1920 г. Слуцкага Паўстаньня (абароны Беларускае Народнае Рэспублікі). **28-га: 35 год** ад заснаваньня ў Тароньце (Канада) Згуртаваньня Беларусаў Канады.

**СЬНЕЖАНЬ. 80 год** ад першага зьезду ў 1903 г. ў Вільні Беларускае Сацыялістычнае Грамады, галоўнае нацыянальна-адраджэнскае партыі, дзейнасьць якое выдатна спрычынілася да абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі 25 сакавіка 1918 году. **10-га:** традыцыйны дзень галадоўкі, якую Міхал Кукабака, „вечны вязень" КДБ, адзначае ўгодкі абвешчаньня ў 1948 г. Усеагульнае дэклярацыі правоў чалавека; М. Кукабака быў ізноў засуджаны ў 1982 г. на тры гады суровага рэжыму. **14-га: 45 год** ад сьмерці ў 1938 г. Міхася Чарота, паэты й драматурга, ахвяры сталінскага тэрору. **15-га: 75 год** ад заснаваньня ў 1908 г. ў Вільні беларускага выдавецкага таварыства „Наша Хата".

### СТУДЗЕНЬ

| Н | П | А | С | Ч | П | С |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 |
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | **18** | 19 | 20 | 21 | 22 |
| 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| 30 | 31 | | | | | |

### ЛЮТЫ

| Н | П | А | С | Ч | П | С |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | **2** | 3 | 4 | 5 |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | **15** | 16 | 17 | **18** | 19 |
| 20 | **21** | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| 27 | 28 | | | | | |

### САКАВІК

| Н | П | А | С | Ч | П | С |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | **1** | 2 | **3** | 4 | 5 |
| 6 | 7 | 8 | **9** | 10 | **11** | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | **25** | 26 |
| 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | | |

### КРАСАВІК

| Н | П | А | С | Ч | П | С |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 |
| 3 | 4 | **5** | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| **17** | **18** | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |

### ТРАВЕНЬ

| Н | П | А | С | Ч | П | С |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| **8** | **9** | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| 22 | 23 | 24 | **25** | 26 | 27 | 28 |
| 29 | 30 | 31 | | | | |

### ЧЫРВЕНЬ

| Н | П | А | С | Ч | П | С |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| 5 | 6 | 7 | **8** | 9 | 10 | 11 |
| 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | | |

### ЛІПЕНЬ

| Н | П | А | С | Ч | П | С |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 |
| 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| 24/31 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |

### ЖНІВЕНЬ

| Н | П | А | С | Ч | П | С |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| **7** | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | 30 | 31 | | | |

### ВЕРАСЕНЬ

| Н | П | А | С | Ч | П | С |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | **15** | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | **21** | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | **29** | 30 | |

### КАСТРЫЧНІК

| Н | П | А | С | Ч | П | С |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 |
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 9 | **10** | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | 19 | **20** | 21 | 22 |
| 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| 30 | 31 | | | | | |

### ЛІСТАПАД

| Н | П | А | С | Ч | П | С |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | **4** | 5 |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| **20** | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| 27 | **28** | 29 | 30 | | | |

### СЬНЕЖАНЬ

| Н | П | А | С | Ч | П | С |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | **10** |
| 11 | 12 | 13 | **14** | **15** | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |